Да юбілею фацімскіх аб'яўленняў 2
Легіён Марыі 4
Біблія ў філатэліі 5
Інтэрв'ю з біскупам Гродзенскім 7

Гродна
№11 (469),
21 мая 2017

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Марыя з далёкай Фацімы, благаславі кожнага з нас!

13 МАЯ Ў ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ ПАЧАЛАСЯ ПЕРЭГРЫНАЦЫЯ ФІГУРЫ МАЦІ БОЖАЙ ФАЦІМСКАЙ. ГАЛОЎНЫЯ ЎРАЧЫСТАСЦІ, ПРЫСВЕЧАНЫЯ ГЭТАЙ ПАДЗЕІ, АДБЫЛІСЯ Ў САНКТУАРЫІ МАЦІ БОЖАЙ ФАЦІМСКАЙ У ШЧУЧЫНЕ. У ГЭТЫ ДЗЕНЬ ВЕРНІКІ ДУХОЎНА ЯДНАЛІСЯ З ПАПАМ ФРАНЦІШКАМ, ЯКІ ЗНАХОДЗІЎСЯ НА МЕСЦЫ МАРЫЙНЫХ АБ'ЯЎЛЕННЯЎ У ПАРТУГАЛІІ, А ТАКСАМА РАЗВАЖАЛІ АБ РОЛІ ФАЦІМСКАГА ПАСЛАННЯ – ВЯЛІКАГА ДАРУ ДЛЯ ЧАЛАВЕЦТВА – І ЯГО АКТУАЛЬНАСЦІ Ў НАШ ЧАС.

● працяг на с. 3

## Каляндар падзей

*23 мая*
*26-я гадавіна біскупскіх пасвячэнняў пастыра дыяцэзіі. Молімся ў інтэнцыі ксяндза біскупа Аляксандра Кашкевіча і яго плённай апостальскай паслугі ў нашай дыяцэзіі.*

*24 мая*
*Сусветны дзень малітвы за каталіцкі Касцёл у Кітаі.*

*25 мая*
*Урачыстасць Унебаўшэсця Пана.*

*1 чэрвеня*
*Сусветны дзень дзіцяці. Молімся за дзяцей і дбаем аб іх рэлігійным выхаванні. Распачаце чэрвеньскага набажэнства.*

*4 чэрвеня*
*Урачыстасць Спаслання Святога Духа.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

*"Голас Евангелля"*
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

*"Сімвал веры"*
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск 6 чэрвеня ў 19.10, паўтор - 10 чэрвеня ў 7.00***

*Навіны з Ватыкана па-беларуску*
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

*Чэрвень*

*За разбітыя сем'і з нашай дыяцэзіі. Аб захаванні сужэнцамі і бацькамі вернасці свайму пакліканню.*

*Аб дары плённай перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай у дыяцэзіі і аб добрай падрыхтоўцы да дыяцэзіяльнага сінода.*

**"Шукайце прытулку пад плашчом Панны Марыі". Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### VI ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Ян 14, 15–21**

Езус сказаў сваім вучням: "Калі любіце Мяне, будзеце захоўваць Мае запаведзі. І Я папрашу Айца, і дасць вам іншага Суцяшальніка, каб быў з вамі навекі, Духа праўды, якога свет не можа прыняць, таму што не бачыць Яго і не ведае. А вы Яго ведаеце, бо Ён з вамі ёсць і ў вас будзе. Не пакіну вас сіротамі, прыйду да вас. Яшчэ крыху і свет ужо не ўбачыць Мяне. Вы ж бачыце Мяне, бо Я жыву, і вы жыць будзеце. У той дзень спазнаеце, што Я ў Айцу Маім і вы ўва Мне, і Я ў вас. Хто мае запаведзі Мае і захоўвае іх, той любіць Мяне. А хто любіць Мяне, таго палюбіць Айцец Мой, і Я палюблю яго і аб'яўлюся яму".

### МАСТАЦТВА АБАРОНЫ ВАРТАСЦЕЙ

Сёння нямногія людзі гатовы адстойваць каштоўнасці свайго сэрца. У той час як у жыцці, падобна як на рынгу, трэба ўмець пастаяць за сябе. Той, хто не здольны да гэтага, упадзе ад першага ўдару праціўніка.

Езус неаднойчы падвяргаўся атацы, і кожны раз здолеў абараніцца. Некалькі разоў Яго хацелі забіць, але Хрыстос бяспечна праходзіў праз натоўп і аддаляўся. Толькі калі Айцец паклікаў Сына прыняць боль, Збаўца выйшаў насустрач небяспецы і дабравольна згадзіўся на ўдар, які быў нанесены Яму ў Гефсіманіі.

Чытаючы Евангелле, мы можам навучыцца, як зберагчы скарб веры (параўн.: 1 П 3, 15), аваладаць мастацтвам самаабароны. Давайце пералічым некаторыя яго асноўныя элементы. Па-першае, часта ў жыцці неабходна змагацца у адказ на правакацыйныя выказванні, што датычаць нашай веры ці маральнай паставы. Няма пра што дыскутаваць з людзьмі, якія не прызнаюць духоўных каштоўнасцей. Па-другое, важна ўмець контратакаваць. Калі на Езуса нападалі, Ён адказваў годна і дзейсна (параўн.: Мц 22, 21), паказваючы сваю веліч. Па-трэцяе, падчас атакі заўсёды неабходна выбіраць найбольшыя вартасці.

Вядома, такія рашэнні прыводзяць да страт – яны непазбежныя. Але трэба памятаць, што Бог за іх узнагародзіць, прычым стакрот. На самой справе, мы страчваем толькі тое, што і так прамінае, а атрымліваем вечнае.

### VII ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Ян 17, 1–11а**

Езус узняў вочы свае да неба і сказаў: "Ойча, прыйшла гадзіна. Услаў Сына свайго, каб і Сын Твой уславіў Цябе. Ты даў Яму ўладу над усякім целам, каб Ён даў жыццё вечнае ўсім, каго Ты даў Яму. А вечнае жыццё ў тым, каб спазналі Цябе, адзінага праўдзівага Бога, і таго, каго Ты паслаў, Езуса Хрыста. Я ўславіў Цябе на зямлі, выканаўшы справу, якую Ты даручыў Мне зрабіць. А цяпер Ты, Ойча, услаў Мяне ў сабе хвалою, якую меў Я ў Цябе перад існаваннем свету. Я абвясціў імя Тваё людзям, якіх Ты даў Мне са свету. Яны былі Тваімі і Ты даў Мне іх, і яны захавалі слова Тваё. Цяпер яны пазналі, што ўсё, што Ты даў Мне, ад Цябе паходзіць. Бо словы, якія Ты даў Мне, Я даў ім, і яны прынялі іх і сапраўды пазналі, што Я выйшаў ад Цябе, і паверылі, што Ты паслаў Мяне. Я за іх прашу. Не за ўвесь свет прашу, але за тых, каго Ты даў Мне, бо яны Твае. І ўсё Маё – гэта Тваё, і Тваё – гэта Маё, і Я ўславіўся ў іх. Я ўжо не ў свеце, але яны яшчэ ў свеце, а Я іду да Цябе".

### ЗДЗЕЙСНІЦЬ ПРАВІЛЬНЫ ВЫБАР

Бог стварыў прыгожы, цудоўны свет. Сёння ж мы з'яўляемся сведкамі таго, як ён знішчаецца. Гэта адбываецца рознымі спосабамі. Зараз у свеце размываюцца або ўвогуле сціраюцца сляды Пана. Паволі вядучыя пазіцыі займаюць нянавісць, разлад і хаос. Ланцуг разбурэнняў, знявоенняў, беззаконня, несправядлівасці і пакут цягне за сабой сам чалавек, ігнаруючы такім чынам Божую думку і, разам з тым, сэнс існавання свету.

Мы ўсе можам выбіраць, на чый бок стаць – дабра ці зла, Усемагутнага ці д'ябла. Абіраючы Стварыцеля, павінны клапаціцца аб лепшай атмасферы на працы і ў штодзённым жыцці. Перастаньма наракаць – трэба пачаць штосьці рабіць. Да таго ж, Бог спаслаў свайго Сына і Духа Святога, каб збавіць нас, каб навучыць міласэрнасці. Езус цярпліва чакае любові чалавека ажно да канца яго зямной вандроўкі.

*Кс. Юрый Бяганскі*



**Слова рэдактара**

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Час моцы і ласкі

*Сёлетні май выключны. Гэтую выключнасць яму надае вялікі юбілей – 100-годдзе аб'яўленняў Маці Божай у Фаціме. Пасланне Найсвяцейшай Панны аб супакоі, навяртанні і ружанцовай малітве, скіраванае сучаснаму свету, застаецца актуальным і надалей чакае рэалізацыі.*

Святы Айцец Францішак падчас апошняга візіту ў Фаціму прыгадаў, што заклік Марыі не аднаразовы, а зусім наадварот – датычыць кожнага наступнага пакалення, новых знакаў часу, таму трэба нястомна вяртацца да яго. Адказваць на запрашэнне Найсвяцейшай Панны да штодзённай малітвы, асабліва ружанцовай, адгаворваемай у коле сям'і, каб такім чынам Яна магла дастукацца да сэрца кожнага чалавека, усіх народаў і цэлага свету.

Можам назіраць, што зло не адбываецца дзесьці далёка: па-за нашым домам, па-за межамі нашай краіны. Яно заўсёды пачынаецца ў сэрцы чалавека. Таму свае малітвы і цярпенні неабходна, у першую чаргу, ахвяраваць за самых сябе, бо ўсім нам вострa неабходна міласэрнасць.

Гродзенскі Касцёл адзначае юбілей фацімскіх аб'яўленняў перэгрынацыяй фігуры Маці Божай Каралевы Супакою, якая ўжо распачала вандроўку па вёсках і гарадах Гродзеншчыны. Праз гэтую падзею Марыя прагне нявечдаць усе парафіяльныя супольнасці, сустрэцца з кожным чалавекам, каб сваім позіркам умацаваць надзею, каб з'яднаць нас. Прагне ўсіх узяць пад сваю мацярынскую апеку, падзяліць боль і радасць сем'яў і зрабіць з нас пілігрымаў, падобных да Яе.

Некаторыя сцвярджаюць, што людзі XXI стагоддзя маюць усё. Усё, акрамя часу. Марыя моцна прагне, каб кожны чалавек знайшоў хаця б хвіліну, каб сустрэцца з Ёю і паглядзець у заклапочаныя вочы Маці. Яна хоча весці нас да большай еднасці з Богам, той сапраўднай, якая б адлюстроўвалася ва ўсім нашым жыцці.

**Дарагія Чытачы!**

Няхай фацімскі заклік **"Навярніцеся, кайцеся і маліцеся Ружанец"**, які так часта будзем чуць падчас перэгрынацыі, дойдзе да як мага большай колькасці людзей. Няхай гэтыя цудоўныя перажыванні ажывяць культ Марыі ў нашай дыяцэзіі праз адзначэнне вернікамі першых субот, а таксама праз частаы ўдзел у нядзельнай Эўхарыстыі.

Адчуйма ў тым бачным знаку прысутнасць Найсвяцейшай Маці, паколькі гэта час моцы і ласкі для ўсіх нас. Даручым Марыі нашае сёння і заўтра, каб сваёй прысутнасцю Яна ўзрушыла сэрцы і благаславіла сем'і на з'яднанне.




# Адна з прыгажэйшых натуральных дэкарацый

***На фігурах Маці Божай Фацімскай ля ног Марыі часта можна ўбачыць галубоў. Яны змяшчаюцца на памяць аб тых птушках, якія незвычайным чынам суправаджалі фацімскую фігуру падчас маштабнай перэгрынацыі пасля Другой сусветнай вайны.***

Мэтай перэгрынацыі было прыпамінанне людзям каштоўнасці хрысціянскага братэрства, якое павінна існаваць паміж народамі, вартасці прабачэння. Менавіта таму была абрана фігура Маці Божай з Фацімы, пасланне якой выразна падкрэслівае жаданне міру.

Як паведамляе швейцарскі рэлігійны часопіс "Stella Maris", перэгрынацыя распачалася ў Партугаліі. У Бомбарале падчас праходжання праз Трыумфальную арку хтосьці выпусціў у гонар Багародзіцы некалькі галубоў. Яны ўзляцелі ў неба, а затым на вачах прысутных удзельнікаў працэсіі паволі апусціліся на балдахін, які неслі над фігурай. Потым ускочылі паміж кветак і схаваліся там, скурчыўшыся перад статуяй Марыі. Да здзіўлення ўсіх яны трывалі так, нібы на малітве.

У Кадавале мясцовыя жыхары сустракалі фігуру Маці Божай гарматнымі стрэламі. Галубы ўзляцелі ўверх, але хутка занялі ранейшую пазіцыю каля статуі.

Праз некалькі дзён фігура прыбыла ў Лісабон. Да гэтага часу галубы неслі ганаровую варту ля Найсвяцейшай Маці. Нішто не магло іх прагнаць: ні шум калонак, ні гукі аргана, ні феерверкі... Часам галубы ўзляталі, але абавязкова вярталіся, каб заняць месца паблізу фігуры.

Аднаго разу падчас Эўхарыстыі адзін з галубоў сеў высока на кароне Маці Божай і заставаўся там з распраўленымі крыламі, звернуты ў напрамку алтара так доўга, колькі працягвалася Камунія вернікаў.

Увечары, калі фігура павінна была накіравацца ў катэдру ў прысутнасці 300 тысяч вернікаў з запаленымі свечкамі, 3 галубы засталіся ў касцёле. Было бачна, што яны захацелі скончыць сваю місію ў лісабонскім філіяле фацімскага санктуарыя. Таму з лёгкасцю пайшлі ў рукі і трапілі пад апеку адной з парафіянак. Толькі 1 з 5-ці галубоў прадаўжаў спадарожнічаць Марыі ў народных урачыстасцях, прымаючы ўдзел у наступных этапах перэгрынацыі.

У Каролясе (Іспанія) мясцовая жыхарка таксама вырашыла ахвяраваць пару белых галубоў. Птушкі апусціліся на балдахін, а потым, скачучы паміж кветак, селі на месцы галубоў, якіх бачылі ў Лісабоне.

Гэты мілы цуд паўтарыўся не менш за 50 разоў падчас сусветнай перэгрынацыі. Сведкаў падзеі найбольш здзіўляла нібы набожная пастава птушак. Іх бачылі, напрыклад, звернутых у бок амбона падчас казання ці седзячых па баках цыборыя падчас выстаўлення Найсвяцейшага Сакраманту.



Пасля трыумфальнай перэгрынацыі ў Танзаніі, Угандзе і Кеніі шлях фігуры Маці Божай Фацімскай ляжаў у Эфіопію. Пасля некалькіх гадзін палёту самалёт прызямліўся ў сталічным аэрапорце, дзе фігуру сустракалі шматлікае духавенства і прадстаўнікі мясцовых улады. У якім жа захапленні яны былі, убачыўшы, што самалёт акружаны белымі галубамі. Птушкі спадарожнічалі яму да самага прызямлення. Затым яны зніклі, некуды паляцеўшы, нібы хочучы, каб цяпер уся ўвага была скіравана на Валадарку Неба...

*Ангеліна Пакачайла*

# Марыя з далёкай Фацімы, блаславі кожнага з нас!



Кульмінацыяй свята стала ўрачыстая працэсія з фігурай Маці Божай Фацімскай

працяг са с. 1

**Урачыстасці з нагоды 100-й гадавіны фацімскіх аб'яўленняў таксама адбыліся ў парафіях Нараджэння НПМ у Зарачанцы і св. Мікалая ў Геранёнах. У гэты ж дзень у парафіі Святой Сям'і ў Лідзе быў арганізаваны дзень нястомнай малітвы на ружанцы за мір і супакой ва ўсім свеце і ў інтэнцыі сем'яў парафіі.**

### АДНА З НАЙВАЖНЕЙШЫХ ПАДЗЕЙ XX СТАГОДДЗЯ

Урачыстасці ў Шчучыне пачаліся канферэнцыяй на тэму "Актуальнасць культу Маці Божай Фацімскай", якую прамовіў а. д-р Віталій Сярко SchP. На пачатку свайго выступлення святар узгадаў падзеі з Фацімы ў храналагічным парадку. Распавёў пра аб'яўленні Маці Божай, што адбываліся паміж 13 мая і 13 кастрычніка 1917 года, а таксама пра таямніцы, якія Марыя адкрыла 3-ом пастушкам.

*__"Словы, якія гучалі з вуснаў Найсвяцейшай Маці і анёла 100 гадоў таму, не губляюць свайго значэння і актуальнасці ў наш час,__* – адзначыў а. Віталій. – *__Галоўныя наказы фацімскага духоўнага запавету наступныя: маліцца, ахвяраваць пакуты за ўласныя грахі, а таксама ў інтэнцыі навяртання грэшнікаў; як мага часцей адгаворваць Ружанец; аддаць сябе апецы Найсвяцейшай Панны; пашыраць і паглыбляць пашану да Марыі і Яе Беззаганнага Сэрца, асабліва перажываючы першыя суботы месяца".__*

На завяршэнне дакладчык падкрэсліў, што праз сваё аб'яўленне ў Фаціме Марыя дала заблукалым людзям надзею на збаўленне і вызваленне з няволі граху. І толькі ад стаўлення да фацімскага паслання залежыць наша духоўнае адраджэнне і канчатковая перамога святла і праўды над цемраю і злом.

Пасля канферэнцыі адбылася адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, падчас якой вернікі дзякавалі Усявышняму за ўсе атрыманыя ласкі праз пасярэдніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі. Перапрашалі за правіны і выпрошвалі заступніцтва, каб заставацца вернымі свайму хрысціянскаму пакліканню.

### ФАЦІМСКАЕ ПАСЛАННЕ – ШЛЯХ ДА НАВЯРТАННЯ

Цэнтральным пунктам святкавання стала св. Імша з удзелам шматлікіх вернікаў, духоўных асоб, а таксама гродзенскіх іерархаў: біскупа ардынарыя Аляксандра Кашкевіча і дапаможнага біскупа дыяцэзіі Юзафа Станеўскага.

Звяртаючыся да прысутных з гаміліяй, біскуп Юзаф адзначыў, што фацімскае пасланне, якое Марыя перадала свету праз дзяцей візіянераў, канцэнтруецца, найперш, вакол тэмы малітвы і навяртання. Іерарх падкрэсліў, што Маці Божая паказала пастушкам жахі пекла, прадказала пераслед Касцёла, але, у той жа час, дала надзею. *__"Марыя сказала: «Урэшце маё Беззаганнае Сэрца затрыумфуе і Расія навернецца». Яна гаварыла пра Расію, але мелася на ўвазе і Беларусь, якая ў той час была часткай Расійскай Імперыі",__* – сказаў іерарх.

Біскуп Юзаф таксама адзначыў, што і сёння Марыя прыходзіць, каб дакрануцца да людскіх сэрцаў, каб ажывіць веру і паказаць, што кожны з нас з'яўляецца дзіцём Божым. *__"Падчас перэгрынацыі Маці Божая ў фацімскай фігуры пойдзе шукаць тое месца, тых дзяцей, праз якіх зможа перадаць свету гісторыю збаўлення і свой заклік да навяртання. І кожны, хто прыме Яе, паверыць і будзе жыць так, як заклікае Марыя, стане на шлях збаўлення,__* – прамовіў пастыр. – *__Няхай Нябесная Маці, якая дакранулася да нашага сэрца і ўклала ў рукі ружанец, учыніць так, каб мы, ідучы ў свет, не баяліся дакрануцца да чалавека, які перажывае духоўную адзіноту і не ведае, у якім напрамку рухацца".__*

На заканчэнне літургіі да прысутных звярнуўся біскуп Аляксандр Кашкевіч. Іерах пажадаў, каб узнёслая падзея перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай стала выразам удзячнасці дыяцэзіян за адраджэнне веры і Касцёла на гэтых землях, за пабудаваныя і адноўленыя святыні, за перамену людскіх сэрцаў і сумленняў, а таксама за ўсе атрыманыя ласкі. *__"Будзем перажываць гэтую перэгрынацыю ў духу навяртання, перапрашэння і пакаяння за тое, што ў нашым асабістым і грамадскім жыцці не заўсёды ідзём за голасам Пана. Маю надзею, што гэтая падзея спрычыніцца да паглыблення нашай веры, надзеі і любові, да ўзрастання набожнасці, да лепшага зразумення і прыняцця фацімскага паслання і да навяртання сэрцаў. Няхай Марыя, Каралева Супакою, ахінае нас матчынай апекай і вядзе да збаўлення!"__* – сказаў біскуп Аляксандр.

Затым іерарх асвяціў фігуру Маці Божай Фацімскай, з якой вернікі прайшлі працэсіяй вакол касцёла. З гэтага моманту пачалася вандроўка фігуры Фацімкай Панны па парафіях Гродзенскай дыяцэзіі.

*Кінга Красіцкая*



Падчас асвячэння фігуры Маці Божай Фацімскай



**А. Вітольд Пяцельчыц SchP,**
кусташ санктуарыя Маці Божай Фацімскай у Шчучыне

*Шчучын абраны ў якасці месца пачатку перэгрынацыі невыпадкова. Тут знаходзіцца адзіны санктуарый Маці Божай Фацімскай у Гродзенскай дыяцэзіі. З пачатку 1990-х гадоў тут арганізоўваліся спецыяльныя набажэнствы на ўзор тых, што праходзяць у Фаціме. У іх актыўна прымалі ўдзел не толькі парафіяне, але таксама вернікі з іншых куткоў Гродзеншчыны.*

*Імпульс развіццю марыйнага культу, напэўна, дала фігура Маці Божай Фацімскай, гісторыя якой заслугоўвае асаблівай увагі. Дзякуючы намаганням тагачаснага пробашча а. Казіміра Вуйцяка і падтрымцы арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча ў 1991 годзе гэтая фігура была прывезена на Сусветныя дні моладзі ў Чанстахову. Падчас перапынку на чуванні Святы Айцец Ян Павел II запрасіў Мітрапаліта на сустрэчу, падчас якой іерарх адважыўся папрасіць Папу асвяціць фігуру. Дамовіліся, што ён учыніць гэта, калі будзе вяртацца на адарацыю да алтара. І сапраўды, праходзячы паблізу вернікаў з Беларусі, Святы Айцец затрымаўся, усклаў на фігуру карону і асвяціў яе. Той факт, што шчучынская фігура Маці Божай Фацімскай не зусім звычайная, дадаткова мабілізаваў вернікаў да ўшанавання Нябеснай Заступніцы. Зараз да Багародзіцы, як да духоўнай Маці, яны ўзносяць свае просьбы і падзякі.*

*З вялікай радасцю мясцовыя вернікі прынялі навіну аб святкаванні юбілею 100-годдзя аб'яўленняў Маці Божай у Фаціме. Кожны 13-ты дзень месяца ў нашай парафіі праводзіліся спецыяльныя тэматычныя казанні. Праграма падрыхтоўкі таксама ўключала Навэнну да Маці Божай Фацімскай. Спадзяёмся, што падчас перэгрынацыі Маці Міласэрнасці ў фацімскім абліччы прыйдзе да кожнага з нас, адорыць сваёй ласкай, умацаваўшы веру, надзею і любоў.*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*Марыя паказана ў Евангеллі як маўклівая жанчына, якая часта не разумела ўсяго, што адбывалася навокал, але разважала над кожным словам і падзеяй у сваім сэрцы. У такіх паводзінах бачна прыгожая рыса Яе псіхікі: Марыя не скараецца перад няўпэўненасцю жыцця, асабліва калі здаецца, што нічога не атрымліваецца. Тым больш гвалтоўна не пратэстуе, наракаючы на жыццёвы лёс, які нам часта паказвае сваё варожае аблічча. Яна слухае: не забывайцеся, што заўсёды існуе вялікая сувязь паміж надзеяй і слуханнем.*

*Мы не сіроты, бо маем Маці ў Небе – гэта святая Багародзіца. Яна вучыць нас цноце чакання, нават калі ўсё здаецца пазбаўленым сэнсу. Яна заўсёды даверае таямніцы Бога, нават калі Ён здаецца незаўважным за злом свету. Прымае жыццё такім, якім яно даецца: са сваімі шчаслівымі днямі, але і трагедыямі, каторыя наўрад хто хоча напаткаць. Вось бы Марыя ў моманты цяжкасцей падтрымлівала нашы крокі і казала ў сэрцы: "Устань, паглядзі наперад! Паглядзі на гарызонт". Бо Яна – Маці надзеі.*

*Фрагмент катэхезы падчас агульнай аўдыенцыі, 10.05.2017*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*Мэтай перэгрынацыі фігуры Маці Божай з'яўляецца набліжэнне зместу фацімскага паслання, абуджэнне ў нас духу пакаяння і навяртання, ажыўленне марыйнай набожнасці і распаўсюджванне набажэнства да Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны. Таму прашу кожнага з вас аб як мага лепшым перажыванні гэтай важнай рэлігійнай падзеі ў нашым мясцовым Касцёле. Было б добра, каб перэгрынацыя фігуры Маці Божай Фацімскай прынесла плён прыняцця шматлікай колькасцю вернікаў дыяцэзіі практыкі штодзённай ружанцовай малітвы, адзначэння першай суботы месяца, посту і пакаяння, аб якіх Марыя так горача прасіла сваіх прыхільнікаў.*

*Няхай перэгрынацыя і звязаныя з ёй набажэнствы будуць выражэннем нашай удзячнасці Божаму Провіду і Найсвяцейшай Маці за Гродзенскі Касцёл, за дар адраджэння веры на гэтых землях, за ўсе ласкі, якімі добры Пан так шчодра кожнага адорвае. Няхай стануць таксама перапрашэннем за тое, што сэрцы нашыя і нашых блізкіх не заўсёды адкрытыя на збаўчае ўздзеянне Божай ласкі.*

*Фрагмент пастырскага ліста з нагоды распачаццяя перэгрынацыі фігуры МБ Фацімскай*




*__Піша да вас Валянціна Міхайлоўская. Я таксама паходжу з Гродзеншчыны, з Лідскага раёна. Цяпер жыву з сям'ёй у Маладзечне. Вяртаючыся ад родных, акрамя добрага настрою і пачастункаў абавязкова прывожу газету "Слова Жыцця". Гэта дарагі кавалачак маёй малой радзімы, які дае адчуванне сапраўднай каталіцкай еднасці і моцы.__*

*Паважаныя чытачы, вырашыла падзяліцца з вамі радасцю ад перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай, якая з мінулага года працягваецца ў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. З 22 красавіка па 13 мая фацімскую фігуру Марыі сустракалі ў Маладзечанскім дэканаце. Наша парафія св. Юзафа была першай у рэгіёне, хто яе прымаў. Урачыста і ўзнёсла, пад мелодыю касцёльнага звона маладзечанцы сустракалі сваю Маці. Кожны з прысутных адчуваў вялікую радасць і гонар ад наведвання ў парафіі асвечанай у Фаціме фігуры Марыі. Тым самым можна было нібы дакрануцца да святога месца, дзе аб'явілася Нябесная Каралева.*

*У касцёле для фігуры падрыхтавалі прыгожа аздобленае пачэснае месца. Перад ім кожны жадаючы, незалежна ад канфесійнай прыналежнасці, свецкіх рэгалій і ўзроўняў, мог памаліцца і падзякаваць Марыі за апеку і дапамогу, перапрасіць за свае слабасці і недахопы. Завяршылася ўрачыстая сустрэча фігуры Маці Божай працэсіяй са свечкамі праз касцёльны сквер. Пад цудоўную песню "З далёкай Фацімы" высока ў неба даносіліся малітвы да нашай Маці, а Яна, мы ўпэўнены, іх чула.*

*__Звяртаючыся да вернікаў з Гродзеншчыны, хачу сказаць: вас чакаюць чуллівыя і кранаючыя душу пачуцці ад сустрэчы з фігурай Маці Божай Фацімскай. Ужо загадзя можна рыхтаваць свае сэрцы на шчырую размову ў малітве з Нябеснай Заступніцай. Варта зрабіць невялікую рэфлексію духоўнага жыцця, дакрануцца да патаемнага і нават крыху балючага... Усё дзеля таго, каб пастарацца стаць лепшымі, чым былі ўчора, каб наблізіцца да Маці, якая кліча і перасцерагае, заступаецца і ратуе.__*

*Валянціна Міхайлоўская, г. Маладзечна*




◆ *Касцёл узнёс да хвалы алтара с. Леапальдыну Наудэт. Гэтая італьянская манахіня, якая паходзіць з французска-нямецкай сям'і, жыла на мяжы XVIII–XIX стагоддзяў. Заснавала Кангрэгацыю Сясцёр ад Святой Сям'і. Узгадваючы біяграфію новай благаслаўлёнай, прэфект Кангрэгацыі па справах кананізацыі кард. Анджэла Амата звярнуў увагу, што гэта была жанчына вялікай веры, якая "магла спантанна камунікаваць з іншымі людзьмі, каторыя, успрымаючы манахіню як настаўніцу і прыклад веры, спрабавалі яе пераймаць". Беатыфікацыя была 5-ым абрадам такога тыпу ў гэтым годзе і 66-ым у бягучым пантыфікаце.*

◆ *Тэма будучага кангрэса Рымскай дыяцэзіі – "Падтрымаць сем'і ў выхаванні падлеткаў". Папа Францішак адкрые яго ў чэрвені ў базіліцы св. Яна на Латэране. Пасяджэнне будзе доўжыцца 3 месяцы. Як і ў папярэднія гады, вырашана засяродзіцца на пытаннях сямейнага жыцця. На гэты раз будуць разгледжаны праблемы, з якімі сутыкаюцца бацькі падлеткаў, а таксама магчымасці падтрымкі іх у выхаваўчых задачах.*

◆ *Томас і Міні Раджыб з Індыі ўсынавілі 22 ВІЧ-інфіцыраваных дзіцяці. Пад апекай пакінутыя адчуваюць сябе ўтульна. Ходзяць у школу, святкуюць дні нараджэння. Рэгулярна праходзяць медыцынскія абследаванні. "Быць носьбітам віруса ВІЧ зусім не азначае, што хутка давядзецца развітацца з жыццём. Хворыя могуць жыць так доўга, як кожны нармальны чалавек. З любоўю і клопатам магчыма ўсё! – запэўніваюць бацькі. – Мы не робім нічога дзіўнага. Проста даём крыху шчасця абяздоленым". Дарэчы, індыйцы маюць сваіх 2-ух дзяцей.*

◆ *Звыш 50-ці тысяч злотых сабрана ў Польшчы ў межах акцыі "Рыс на Мадагаскар". Гэтая сума дазволіць закупіць каля 20-ці тон рысу для малагасійцаў, чые пасевы былі знішчаны падчас цыклону Энава. Ён прайшоў праз Мадагаскар у сакавіку гэтага года. Стыхія пазбавіла малагасійцаў ураджаю, на які яны працавалі цэлы год. Востраў больш чым на 70% утрымліваецца за кошт сельскай гаспадаркі. Без падтрымкі жыхарам вострава пагражае голад, таму што рыс з'яўляецца галоўным складнікам іх харчавання. Першы транспарт з гуманітарным грузам ужо трапіў да патрабуючых.*

◆ *У Ужгарадзе, Кіеве і Львове (Украіна) адбыліся прэзентацыі кнігі "Твіты з Богам", дзе аўтар кс. Мішэль Рэмер распавёў пра гісторыю яе выдання. "Усё пачалося з пытанняў пра жыццё і Бога ад маіх парафіян. На штотыднёвых дыскусіях мы спрабавалі шукаць на іх адказы. За некалькі гадоў узнікла ідэя надрукаваць зборнік на аснове нашых гутарак", – падзяліўся святар з Нідэрландаў. Калі кніга выйшла, моладзь стварыла сайт і завяла старонкі ў сацсетках для пазнання Бога. Такім чынам праект быў развіты ад кнігі да мультымедыя.*

*credo.pro; ekai.pl niedziela.pl*

*Ангеліна Пакачайла*

# Нас паклікала Панна Марыя

**У бягучым годзе Легіёну Марыі, які існуе пры парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне, спаўняецца 10 гадоў. Хочам падзяліцца невялікім вопытам свайго служэння, распавесці аб тых кроплях нашай працы, якія ўліваюцца ў агульную дзейнасць Легіёнаў свету.**




## Ля вытокаў

Усё пачыналася проста і нават нечакана. Аднойчы пасля св. Імшы ў нашай парафіі выступалі прадстаўнікі Легіёна Марыі з Маладзечна. Яны прыехалі, каб дапамагчы арганізаваць Легіён пры нашым касцёле. Многія ўважліва слухалі выступоўцаў, імкнучыся зразумець: што ўяўляе сабой супольнасць, што ў ёй патрэбна рабіць. Напэўна, кожны думаў па-свойму: "Што мне дадуць гэтыя спатканні?", "Ці варта ахвяраваць на тое свой час?". Штосьці супраціўлялася і ўнутры мяне: "Ці патрэбна гэта цяпер?". Але ўсё ж цвёрдым крокам накіравалася ў капліцу, куды нас запрасілі легіянеры. Там была б большая верагоднасць адгаварыць маці ад страшнага кроку, праз які яна забівае ў сабе бясцэнны дар жыцця. Але, на жаль, мы не атрымалі на тое дазвол.

## Па прыкладзе ахвярнасці Марыі

Мы яшчэ не зусім усвядамлялі, што праз сваё служэнне становімся нібы закваскай Божага народа, актыўнымі ўдзельнікамі выратавальнай місіі Касцёла і сведкамі яго жыццёвай сілы. Але ўжо добра разумелі, што павінны працаваць над сабой, духоўна расці, каб быць валанцёрамі, каб аддаваць сябе, як вучыць Марыя, Маці Касцёла. Усведамлялі і тое, што патрэбны веды, каб

> Легіён Марыі – гэта каталіцкая супольнасць, заснавальнікам якой быў Фрэнк Даф з Ірландыі. Пры жыцці ён глыбока зразумеў ролю Найсвяцейшай Маці ў ратаванні грэшнікаў: Яна змагаецца за душу кожнага чалавека на зямлі, вучыць разумець Божы Провід і прымаць свае месца перад Усявышнім.

І закруцілася. Ахвотныя пачалі разам сустракацца, чытаць малітвы ў інтэнцыях навяртання людзей, што страцілі сэнс веры, плёну святарскіх місій, чысціні тлумачыць людзям, якія жывуць у секулярызаваным грамадстве, праўду аб Нябеснай Каралеве і тым самым праслаўляць Езуса Хрыста, нашага Пана, ўзаемаадносін у моладзевым асяроддзі, любові і ўзаемапавагі ў сем'ях, мудрасці для кіраўнікоў дзяржаў і інш.


*Духоўны кіраўнік супольнасці кс. Ян Этэль SCJ*

Сваю практычную работу распачалі ў 4-й гарадской клінічнай бальніцы. Разважалі з жанчынамі, якія вырашыліся на аборт. Спрабавалі данесці да іх свядомасці, што ў будучым такі выбар можа прывесці да цяжкіх духоўных праблем, самотнасці, дэпрэсіі, розных захворванняў.

Вядома, не заўсёды нас слухалі. Часцей за ўсё жанчыны апраўдвалі сваё рашэнне тым, што не хапае матэрыяльных сродкаў на забеспячэнне яшчэ аднаго дзіцяці. Іншы раз чулі і такое: "Гэтая цяжарнасць нечаканая, а ў мяне праца", "Там яшчэ нічога няма, пра якое дзіця вы гаворыце". Пасля мы захацелі сустракацца з такімі няшчаснымі ў жаночай кансультацыі, дзе ім выдаюць накіраванне на аборт. дапамагаючы бліжняму прыблізіцца да Яго.

З цягам часу мы пачалі больш дасканала вывучаць палажэнні і сутнасць паняцця "Legio Mariae", прынцыпы, метады і формы працы. Лепш пазналі адзін аднаго, наладзілі паміж сабой цесныя кантакты. Паступова ў нас склалася свая сістэма валанцёрскага служэння: сходы ў кожную нядзелю, малітвы ў спецыяльных інтэнцыях, практычная работа (заданні), сустрэчы з памочнікамі, якія падтрымліваюць малітвамі, індывідуальныя кансультацыі.

## У духу ласкі Маці Божай

Сёння важным напрамкам нашай дзейнасці з'яўляецца абарона жыцця зачатых дзяцей. Молімся аб навяртанні жанчын, медыкаў у паліклініках горада. Распаўсюджваем праўдзівую інфармацыю аб шкоднасці кантрацэпцыі, "пробных" шлюбаў сярод моладзі. Дзелімся духоўнай літаратурай. Супрацоўнічаем з іншымі групамі, якія працуюць у накірунку абароны жыцця: "Адкрытыя сэрцы", "У абароне жыцця і сям'і".

Традыцыйна збіраемся на сумесную св. Імшу, супольна адгавораем Ружанец у 4-й гарадской клінічнай бальніцы і ў хоспісе на базе 3-й гарадской клінічнай бальніцы. Наведваем хворых у бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі.

З даўняга часу падтрымліваем кантакты з гарадскім Домам ветэранаў. Наведваем самотных людзей, дапамагаем у вырашэнні іх індывідуальных праблем, асабліва тых, якія датычаць веры. Запомнілся выпадак з адной жанчынай, пакінутай блізкімі. Не размаўлялі з ёю і суседзі, бо лічылі, што ў той, можа, не ўсё ў парадку з розумам. Высветлілася, у гады вайны жанчына цяжка працавала ў Германіі. З цягам часу адышла ад веры. Мы выслухалі яе, разам памаліліся. І яна адгукнулася на прапанову сустрэцца са святаром. Паспавядалася, прыняла св. Камунію і як хрысціянка адышла да Пана Бога. У кожную першую суботу месяца наш духоўны кіраўнік кс. Ян Этэль SCJ адпраўляе ў Доме ветэранаў св. Імшу. У апошнія гады там адбываюцца сустрэчы з польскімі харцэрамі і скаутамі, якія прывозяць ветэранам калядныя падарункі, разам моляцца.

Акрамя таго, мы даглядаем за старымі гарадскімі могілкамі па вул. Антонава (прыбіраем забытыя магілы). Ахопліваем увагай навучальныя ўстановы і некаторыя месцы бяздумных (грэшных, па сутнасці) гульняў – начныя клубы. Мы добра разумеем тую шкоду, якую прычыняе сабе чалавек. Верым у сілу малітвы і прыходзім да гэтых месцаў маліцца.

## Нягледзячы на перашкоды

У дзейнасці нашага Легіёна было нямала цяжкасцей, непаразуменняў. І цяпер не без гэтага, бо мы звычайныя людзі. Спачатку на малітву прыходзіла шмат жадаючых, якія пасля сталі членамі Легіёна. Але паступова некаторыя адыходзілі. Хтосьці называў прычыну "работа, не паспяваю", "патрэбна больш часу на сям'ю", "у мяне ўнукі" і г. д. Безумоўна, справа не толькі ў гэтым. Як мне здаецца, людзі не ўбачылі вялікага сэнсу Легіёна Марыі, не захацелі бескарыслівa аддаць частку свайго часу бліжняму.

У служэнні нам даводзіцца сустракацца з цяжкасцямі і ў кантактах з людзьмі, далёкімі ад Касцёла, якія перажываюць жыццёвыя праблемы, хваробы, розныя крызісы. Трэба сказаць, што некаторыя нават веруючыя людзі не хочуць прыняць складаную сітуацыю, супраціўляюцца ёй, задаючы пытанні: "Чаму мне?", "За што?". На жаль, многія не разумеюць, што цярпенне надае паўнату жыццю і сведчыць аб блізкасці чалавека да Збаўцы. Вельмі няпроста растлумачыць, што важна ахвяраваць свае цярпенне, напрыклад, за навяртанне грэшнікаў, моладзь, цвярозасць у сем'ях і інш. Стараемся заўсёды падтрымаць асобу ў цяжкай сітуацыі, заахвоціць яе прыняць Езуса – не толькі ўваскрослага, у ззянні радасці і хвалы, але і на Галгофе, які цярпліва ўзяў на сябе людскія правіны.

> Мэта Легіёна – праслаўленне Бога ў малітвах і сумеснай працы ў межах новай евангелізацыі. Задача – несці Марыю свету, дапамагаць іншым адкрываць у сабе Божую Маці. Легіянер павінен імкнуцца да марыйнага стылю жыцця. Штотыдзень ён ідзе на заданне, якое атрымлівае на агульнай сустрэчы Легіёна.

## У якасці Божай прылады

Праз свае служэнне ў Легіёне мы вучымся дысцыпліне, пакорнасці, цярплівасці. Спазнаём ісціны Катэхізіса і даносім іх да іншых. Пад апекай Марыі прагнем убачыць Хрыста, асабліва ў тых, хто патрабуе дапамогі, знаходзіцца ў роспачы, церпіць духоўную нястачу (іншы раз і матэрыяльную). Усведамляем, што абмежаванасць, слабасць, нейкія недахопы не перашкаджаюць у еднасці з Богам. Сіла Святога Духа пабуджае да пераадолення розных цяжкасцей, перабудовы ў характары, паступовага адрачэння ад таго, што не падабаецца Марыі. Малітва на кожны дзень – "Праслаўляй, душа мая, Пана". У ёй мы злучаемся з усімі Легіёнамі Марыі ў свеце.

Праца ў Легіёне дазваляе лепш зразумець "kairos" – добры час, выбраны Богам з мэтай выпрабавання асобы, яе гатоўнасці да змянення. Служэнне паступова "зацягвае", і ўжо нішто не перашкаджае – ні дождж, ні халодны вецер, ні боль ад няўдалых спроб у запланаванай практычнай дзейнасці. Легіянер проста выконвае сваю справу, імкнучыся да дасканаласці ў сціплым служэнні. І ў той жа час памятае, што ў хвіліны, калі Марыя кліча да ўдзелу ў жыцці бліжняга, ён толькі прылада ў ажыццяўленні любой добрай справы.



*Удзельнікі "гродзенскага" Легіёна Марыі*

Праца ў Легіёне – гэта служэнне бліжняму, дзе кантралёрам з'яўляецца сумленне легіянера, яго псіхалагічная гатоўнасць, духоўны стан, здольнасць адарваца ад звычайнай паўсядзённасці і клопатаў, без чаго дзейнасць у духу Панны Марыі не мае сэнсу.

**Сардэчна запрашаем у Легіён Марыі ўсіх, хто хоча працаваць пад сцягам Маці Божай – ціхай, пакорнай, міласэрнай!**

*Вацлава Панасюк*



# СТВАРАЛЬНІК УНІКАЛЬНАЙ КАЛЕКЦЫІ "БІБЛІЯ Ў ФІЛАТЭЛІІ"

**Паважаныя Чытачы, у мінулым нумары мы пазнаёмілі Вас з марыйнымі абразамі на паштовых марках. Гэтая калекцыя належыць філатэлісту Лявону Карповічу з мястэчка Лунна. Ён збірае маркі на біблейскую тэматыку, праз сваё захапленне папулярызуючы сярод людзей важныя ісціны Святой Кнігі.**

## ПРАЦА ФІЛАТЭЛІСТА МАБІЛІЗУЕ ДА ПОШУКУ

Большую частку свайго жыцця Лявон Карповіч адпрацаваў настаўнікам. Калекцыяніраваць паштовыя маркі пачаў у 1990-я гг. ***"Раней філатэлія была масавым захапленнем. Многія школьнікі збіралі маркі, некаторыя з іх пасля прысвячалі калекцыяніраванню ўсё сваё жыццё. Я ж прыйшоў у філатэлію вельмі позна, і тое дзякуючы сваім сябрам,*** – распавядае спадар Лявон. – ***Збіраць маркі з усяго свету было б бессэнсоўным заняткам. Уявіце, колькі іх! Гэта як ахапіць неахопнае. Таму шукаў адмысловую тэму. На самым пачатку гэта была «Белавежская пушча», пасля – калекцыя марак па гісторыі Беларусі".***



*Канверт з маркай, дзе адлюстравана мапа свету з надпісам CHRISTMAS*

Але тут у спадара Лявона былі "канкурэнты", таму, каб не паўтарацца, ён пачаў шукаць сапраўды рэдкую тэму, нешта "сваё". Так нарадзілася ідэя сабраць і апісаць паштовыя маркі, якія ілюструюць біблейскія сюжэты.

> Нават той, хто ніколі не чытаў Біблію, можа скласці пэўнае ўяўленне пра падзеі, апісаныя ў Кнізе Кніг, прагледзеўшы матэрыял, сабраны філатэлістам.

***"Святое Пісанне з'яўляецца адной з найважнейшых кніг у гісторыі свету, прычым не толькі ў духоўным плане, але і ў літаратурным, гістарычным, сацыяльным. Для многіх людзей гэта свайго роду жыццёвая інструкцыя, крыніца мудрасці, якая вучыць любіць і дараваць",*** – падкрэслівае філатэліст.

## АД ІДЭІ ДА ЎВАСАБЛЕННЯ

Спадар Лявон выказвае думку, што мы жывём у свеце, які ў значнай ступені стаў упарадкаваны праз біблійную культуру, і прыводзіць наступны прыклад: ***"Самая знакамітая карціна Рафаэля – «Сіксцінская Мадонна». У ёй мастак перадаў таямніцу матчынай прыгажосці. Але не ў гэтым невычэрпнае жыццё твора. Мадонна так зачароўвае, таму што на карціне адлюстравана Яе душа. У гэтым малюнку сёе-тое недаступна свядомасці чалавека. Аб карціне напісаны тамы прац, яе рэпрадукцыю змяшчалі на сваіх марках пошты розных краін".***

Сярод экспанатаў у калекцыі спадара Лявона ёсць маркі, якія ілюструюць пакаранне агнём гарадоў Садома і Гаморы, прыпавесці пра марнатраўнага сына, працаўнікоў вінаградніка, заблукалую авечку. Ёсць таксама маркі, што распавядаюць пра нараджэнне Маці Божай, заручыны Марыі і Дабравесце, Апошнюю вячэру і Крыжовы шлях Езуса Хрыста. У калекцыі нават прысутнічае першая марка, прысвечаная нараджэнню Хрыста, якая выдадзена поштай Канады.

Філатэліст распавядае, што жывучы ў вёсцы цяжка збіраць філатэлістычны матэрыял. Па яго словах, набываў маркі, калі ехаў за мяжу. Дапамагалі сябры з Польшчы і Ізраіля. Нешта ўдавалася знайсці ў гродзенскім філатэлістычным клубе. Частка марак набывалася ў мінскай спецыялізаванай краме. ***"Зараз маркі можна свабодна купіць праз інтэрнэт, толькі б грошы былі,*** – гаворыць з усмешкай спадар Лявон. – ***Калі я пачынаў збіраць сваю калекцыю, такой магчымасці, на вялікі жаль, не было".***


*Лявон Карповіч распавядае пра маркі, прысвечаныя нараджэнню Збаўцы*

> Мара Лявона Карповіча – выдаць "Біблейскія гісторыі, ілюстраваныя паштовымі маркамі". Аўтар ужо мае артыкулы на гэтую тэму і шукае фундатара для сваёй кнігі.

## БІБЛЕЙСКАЯ КАЛЕКЦЫЯ – ШЛЯХ ДА СПАЗНАННЯ ВЕЧНЫХ ІСЦІН

Калекцыя Лявона Карповіча "Біблія ў філатэліі" скаладаецца з 80-ці аркушаў, на якіх змешчана каля 600 марак, выпушчаных у розных краінах свету. Яны ілюструюць падзеі Старога і Новага Запавету. Кожная марка суправаджаецца аўтарскім апісаннем на беларускай мове. ***"Давялося прыкласці шмат намаганняў і грунтоўна папрацаваць, каб стварыць гэтую калекцыю. Спачатку трэба было пазнаёміцца з самімі падзеямі, апісанымі ў Біблії, а пасля распазнаць матывы ў творах знакамітых мастакоў, адлюстраваных на паштовых марках",*** – гаворыць спадар Лявон.

Як падкрэслівае філатэліст, падчас стварэння калекцыі на біблейскую тэматыку ён не толькі шырэй пазнаёміўся са Старым і Новым Запаветам, здабыў новыя веды пра Бога і ўзмацніў сваю веру: ***"Калі збіраў маркі і іншыя матэрыялы, сутыкаўся з сусветна вядомымі творамі мастацтва. І гэтая сустрэча з прыгажосцю, з вышэйшымі памкненнямі чалавечай думкі і таленту ўзбагаціла мой унутраны свет".***

Спадар Лявон убачыў, наколькі цікавымі і павучальнымі з'яўляюцца біблейскія гісторыі. Дзякуючы ім адкрыў для сябе новыя шляхі пазнання дабра і зла, зразумеў, чым ёсць сапраўдная любоў.

*Кінга Красіцкая*

# XXIV Дыяцэзіяльныя дні моладзі ў Навагрудку



**Сёлета маладых людзей разам з іх душпастырамі 6–8 мая гасцінна прымала парафія св. Міхала Арханёла, сёстры назарэтанкі, а таксама мясцовыя адукацыйныя ўстановы. Дэвізам сустрэчы сталі словы: "Вялікія рэчы ўчыніў нам Бог праз Марыю".**

## Дзень першы

Св. Імшу на адкрыццё мерапрыемства ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Угаміліі іерарх адзначыў, што сёння вельмі важна ісці наперад. ***"Нельга стаяць на месцы, трэба няспынна развіваць сваю веру. Ад вас, маладое пакаленне, залежыць будучыня Касцёла, грамадства, краіны",*** – заўважыў біскуп.

Пасля адбылася канферэнцыя на тэму "Марыя – наша Маці і прыклад жыцця", якую правёў а. Андрэй Ядкоўскі CSsR. Падчас прамовы святар даў моладзі каштоўную параду: "Калі хочаш быць шчаслівым, бяры ў рукі ружанец".

Праграму першага дня на цэнтральнай плошчы горада завяршыў канцэрт праслаўлення. Разам з семінарыйным гуртом "AVE" моладзь усхваляла Бога праз спеў і танцы.

## Дзень другі

Пасля супольнай малітвы маладыя вернікі прынялі ўдзел у катэхетычных сустрэчах, прысвечаных тэме цнотаў Марыі: пакоры, чысціні веры, надзеі, любові, служэнню і трываласці. Моладзь была падзелена на групы. Кожнай з іх прапанавалася наблізіць постаць Найсвяцейшай Маці на аснове розных тэзісаў. Пасля катэхетычных заняткаў удзельнікі ДДМ абыгрывалі іх у міні-сцэнках.

> Акрамя моладзі з Гродзенскай дыяцэзіі на мерапрыемстве прысутнічалі прадстаўнікі Пінскай дыяцэзіі і Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, а таксама група студэнтаў з Нігерыі, якія вучацца ў гродзенскіх ВНУ. Агульная колькасць удзельнікаў сёлетніх ДДМ – каля 1500 чалавек.

Так як другі дзень мерапрыемства супаў з Нядзеляй Добрага Пастыра, маладыя людзі сабраліся на св. Імшы, каб маліцца аб новых пакліканнях да святарскага і манаскага жыцця, а таксама аказаць духоўную падтрымку тым, хто ўжо прысвяціў сваё жыццё Хрысту. Літургію цэлебравалі новапрэзбітэры. Пасля святары ўдзялілі вернікам індывідуальнае благаслаўленне.

Апоўдні прайшла прэзентацыя моладзевых парафіяльных груп. Падчас выступленняў маладыя людзі праслаўлялі Маці Божую спевамі, танцамі і тэатральнымі пастаноўкамі.

## Дзень трэці

У апошні прадугледжаны праграмай ДДМ дзень моладзь адправілася ў пешай пілігрымцы за горад у Батароўскі лес, каб ушанаваць благаслаўлёных сясцёр-мучаніц на месцы іх спачыну. Літургію ўзначаліў біскуп Аляксандр Кашкевіч. Іерарх пазнаёміў прысутных з гісторыяй гераічнай смерці 11-ці назарэтанак, якія падчас ІІ Сусветнай вайны аддалі сваё жыццё дзеля выратавання айцоў сямей з Навагрудка і мясцовага святара. На месцы, акропленым крывёю мучаніц, моладзь мела магчымасць суцішыцца пасля бурлівага перажывання мінулых дзён і паразважаць, на чым базуецца вера і якімі ахвярамі поўніцца іх штодзённасць.

Пасля ўдзельнікі мерапрыемства разам з арганізатарам кс. Антоніем Грэмзам падзякавалі пробашчу парафіі ў Навагрудку кс. Юрыю Жэгарыну і мясцовым жыхарам за цёплы прыём і за новаўвядзенне ў праграму мерапрыемства – паломніцтва да святога месца.

Завяршыліся ДДМ канцэртам праслаўлення ў выкананні гурта "Laudans".

*Паводле grodnensis.by*







### *Манету ў гонар свсв. Пятра і Паўла адчаканяць у Ватыкане*

***Яна будзе выпушчана Ватыканскім філатэлістычна-нумізматычным аддзелам да 1950-й гадавіны мучаніцкай смерці святых Апосталаў.***

*Графічнае афармленне манеты распрацавала італьянскі скульптар Габрыэла Цітола. На ёй прадстаўлены святыя і характэрныя для іх іканаграфічныя сімвалы – ключы і меч. Першы спасылаецца на перадачу св. Пятру Езусам ключоў ад Нябеснага Валадарства, а другі – на жыццё і мучаніцкую смерць св. Паўла.*

*Набыць памятную манету можна будзе па кошце 18 еўра.*




### *Іспанскія мучанікі – благаслаўлёныя*

***У каталонскай Жыроне адбылася беатыфікацыя кс. Антонія Арыбаса Орцігуэла і 6-ці яго таварышаў. Усе належалі да Кангрэгацыі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса. Загінулі падчас рэлігійнага праследавання ў перыяд грамадзянскай вайны ў Іспаніі.***

*Пачатак вайны ў 1936 годзе застаў маладых людзей у ніжэйшай семінарыі іх кангрэгацыі, што знаходзілася паблізу Барселоны. Выгнаныя з альма-матэр, кс. Антоніа разам з таварышамі пастанавілі перабрацца ў Францыю, але сталі ахвярай здрады і былі выдадзены рэспубліканцам. На наступны дзень іх расстралялі. Малодшы меў толькі 20 гадоў, старэйшы – 28. У гісторыю трагічна загінулыя ўвайшлі як "мучанікі з Канэт-дэ-Мар" (населены пункт у правінцыі Барселоны, дзе былі расстраляны благаслаўлёныя).*




### *У Будслаў – на верталёце*

***Жадаючыя наведаць нацыянальны санктуарый і памаліцца каля абраза Маці Божай змогуць паляцець туды на верталёце.***

*Рэалізоўвае праект мінскі аэраклуб ДТСААФ. Замовіць верталёт неабходна не пазней, чым за 3 гадзіны да планаванага часу вылету.*

*Ініцыятарам новага фармату пілігрымак стала парафія свсв. Сымона і Алены ў Мінску. У супрацоўніцтве з Рэспубліканскім саюзам турыстычных арганізацый плануецца павялічыць зацікаўленасць да Будслава з боку турыстаў, у першую чаргу замежных.*

*Кінга Красіцкая*

## Дзень св. Дамініка Савіо адзначылі ў Смаргоні

*Дзеці і моладзь сабраліся ў Савіо-клубе араторыя, каб падзякаваць свайму апекуну за ўсе атрыманыя ласкі і папрасіць яго аб далейшай дапамозе.*

Падчас урачыстай св. Імшы з гамілій да "савікаў" і іх бацькоў звярнуўся пробашч кс. Алег Жураўскі SDB. Святар нагадаў аб ролі св. Яна Боска і св. Дамініка Савіо і пажадаў прысутным ісці да неба той дарогай, якую паказалі гэтыя асобы.

Асаблівым момантам літургіі сталі абяцанні, якія склалі сябры Савіо-клуба. Моладзь старэйшай групы аднавіла пастановы, зробленыя ў мінулым годзе. Дзеці з малодшай групы прысягнулі ўпершыню. "Абяцанні жыць у сяброўстве з Езусам і Марыяй, сумленна выконваць свае абавязкі, пазбягаць цяжкага граху выканаць зусім не проста. Але я ўпэўнены ў сур'ёзнасці вашых намераў і ў тым, што з радасцю дапаможаце адзін аднаму дайсці да святасці па прыкладзе свайго нябеснага заступніка", – падкрэсліў на заканчэнне кс. Алег.



## Парафіяльны фэст адбыўся ў Юрацішках

*Урачыстасць у касцёле Перамянення Пана была прысвечана 100-годдзю фацімскіх аб'яўленняў.*

Св. Імшу ўзначаліў кс. дэкан Віктар Субель. Божае слова да парафіян скіраваў а. Андрэй Агель SP, пробашч лідскай парафіі Унебаўзяцца Найсвяцейшай Панны Марыі. Святар адзначыў, што "як Езус вучыў вучняў малітве «Ойча Наш», так Марыя навучае нас малітве Ружанца". Манах таксама ўзгадаў, што падчас замаху на Святога Айца 13 мая 1981 года Яна Паўла II выратавала тое, што ён азірнуўся на дзяўчынку, якая трымала абраз Маці Божай Фацімскай. Прыводзіў прыклады з гісторыі, калі людзі розных нацыянальнасцей, сацыяльнага статусу, узроўню адукацыі маліліся Ружанец і ўшаноўвалі Найсвяцейшую Маці. "Так і сёння пасланне Марыі з'яўляецца актуальным і патрабуе ад нас навяртання, пакаяння і малітвы", – сказаў а. Андрэй.

Скончылася св. Імша ўрачыстай працэсіяй вакол касцёла і бласлаўленнем прысутных Найсвяцейшым Сакрамантам.



## Адпустовая ўрачыстасць адбылася ў Вярэйках

*Шматлікія вернікі і святары з суседніх парафій Ваўкавыскага і Берастовіцкага дэканатаў прыбылі ў мясцовы касцёл ва ўспамін св. Станіслава, які ўшаноўваецца парафіянамі ў абразе ў правым бакавым алтары.*

Гамілію да прысутных прамовіў кс. Віталій Дабраловіч, дырэктар нацыянальнага "Карытас". Святар звярнуў увагу на тое, што жыццё хрысціяніна з'яўляецца дарам. "І як толькі чалавек гэта да канца ўсведамляе, яго жыццё можа перамяніцца ў корані. Ён перастае думаць толькі пра сябе і ўласныя патрэбы, а пачынае ахвярна служыць бліжняму, як Божае дзіця", – падкрэсліў кс. Віталій.

Напрыканцы пробашч парафіі кс. Валерый Лісоўскі падзякаваў духавенству, парафіянам і шматлікім гасцям, якія прыбылі ў вярэйкаўскі касцёл, за сумесную малітву. Скончылася ўрачыстасць эўхарыстычнай працэсіяй вакол святыні.



## Моладзь з парафіі ў Каробчыцах атрымала ўмацаванне ў хрысціянскай сталасці

*Сакрамант канфірмацыі вернікам удзяліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.*

Падчас урачыстай літургіі ў парафіі св. Станіслава і св. Максімільяна Кольбэ біскуп Юзаф запытаўся ў пробашча кс. Яна Рушніцкага, ці годныя маладыя людзі прыняць гэты сакрамант і ці належным чынам падрыхтаваліся да яго. Святар пацвердзіў, а кандыдаты хорам папрасілі аб удзяленні сакраманта і падкрэслілі, што заўсёды гатовыя даваць сведчанне веры і жыць паводле яе прынцыпаў.

Праз прыняцце дароў Духа Святога моладзь абавязалася да набожнага жыцця, апостальства, служэння бліжнім і ўдзелу ў літургіі для асвячэння і супольнага праслаўлення Бога.



## Біскуп Аляксандр Кашкевіч удзяліў сакрамант канфірмацыі ў Сапоцкіне

*Яго атрымала група моладзі мясцовай парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча, а таксама вернікі парафій Перамянення Пана ў Селіванаўцах і Маці Божай Ружанцовай у Лабне.*

Св. Імшу біскуп цэлебраваў у інтэнцыі прымаючых сакрамант канфірмацыі і іх парафіяльных супольнасцей.

"Дары Духа Святога – гэта паслак з неба, які ўмацоўвае наш дух, каб маглі жыць і функцыянаваць, годна думаць, добра разумець рэчаіснасць, мець правільны, Божы погляд на жыццё", – патлумачыў у гаміліі значэнне канфірмацыі біскуп Аляксандр. І дадаў, што сакрамант хрысціянскай сталасці патрэбны чалавеку, каб той добра разумеў, навошта жыве, чаго павінен жадаць і што павінна быць найважнейшай мэтай жыцця. "Без дапамогі Духа Святога нам было б неверагодна цяжка верыць, маліцца, жыць у праўдзе, справядлівасці і любові, перамагаць уласныя слабасці, змагацца з грахом, выконваць добрыя ўчынкі, узрастаючы ў любові да Бога і бліжняга", – сказаў біскуп.

Падчас намашэння святым алеем хрызма вернікі абавязаліся быць сведкамі Хрыста ў сваіх асяроддзях, месцах вучобы і працы.



## "Духоўныя святыні маёй Бацькаўшчыны"

*Канцэрт пад такой назвай у выкананні струннага аркестра і хору пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга адбыўся ў касцёле св. Міхала Арханёла ў Навагрудку.*

Праграма канцэрта выдалася вельмі разнастайнай. Большасць твораў у выкананні вакальнага калектыву была прысвечана Найсвяцейшай Панне Марыі. Струнны аркестр агучыў музычныя пярліны Мацея Радзівіла і іншых сярэднявечных кампазітараў. "Мы хацелі падзяліцца скарбамі духоўнай музыкі і спеву, якія належаць да культурнай спадчыны нашага народа", – адзначыла вядучая канцэрта Вольга Дадзіёмава, доктар мастацтвазнаўства.



## АНОНСЫ

### КС. ЯН РЭЙШАЛЬ АДЗНАЧЫЦЬ СЯРЭБРАНЫ ЮБІЛЕЙ СВЯТАРСТВА

**Урачыстая св. Імша з гэтай нагоды адбудзецца 27 мая ў парафіяльным касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Жалудку. Пачатак у 10.00.**

Кс. Ян Рэйшаль прыняў прэзбітэрскае пасвячэнне 24 мая 1992 года ў Гродне з рук біскупа Аляксандра Кашкевіча. Пасля чаго быў скіраваны ў парафію ў Жалудку, душпастырам якой з'яўляецца да сённяшняга часу.

*Да супольнай малітвы падзякі за 25 гадоў службы Пану Богу і людзям святар запрашае духавенства і свецкіх вернікаў.*

### АКЦЫЮ "ДУХОЎНАЕ ЎСЫНАЎЛЕННЕ ВЫПУСКНІКА" РАСПАЧЫНАЮЦЬ АЙЦЫ ПІЯРЫ

**З 1 па 28 чэрвеня ў касцёле св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне будзе праходзіць дадатковае набажэнства да Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Юзафа Каласанса, злучанае з малітвай да Святога Духа, у інтэнцыі паспяховай здачы экзаменаў для выпускнікоў і добрага выбару імі жыццёвага шляху.**

Каб далучыцца да акцыі, неабходна даслаць паведамленне адказнаму за правядзенне акцыі а. Віталію Слуку ў сетцы VK па адрасе **vk.com/vitalisluka** або на электронны адрас **shma@poczta.fm** з цэтлікам "Духоўнае ўсынаўленне выпускніка" або "Далучаюся да малітвы за выпускнікоў". У ім указаць сваё імя, прозвішча і месца жыхарства. Выпускнікі атрымаюць ад айцоў піяраў пацвярджэнне, што ўзяты пад духоўную апеку, астатнія – малітвы, каб іх падтрымаць. Запіс трывае да 31 мая.

*Больш падрабязную інфармацыю можна знайсці на старонцы:* ***vypusknik2017.blogspot.com.by.***

### ДЫЯКАН ЯЎГЕН ЦІХАН ПРЫМЕ ПРЭЗБІТЭРСКАЕ ПАСВЯЧЭННЕ

**Яго ўдзеліць дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.**

Урачыстасць адбудзецца 3 чэрвеня ў парафіі Божай Міласэрнасці (Маладзёжны) у Лідзе. Пачатак у 11.00.
У тым жа касцёле 4 чэрвеня ў 13.00 новапрэзбітэр цэлебруе прыміцыйную св. Імшу.

### ІГНАЦЫЯНСКІЯ РЭКАЛЕКЦЫІ ПРОЙДУЦЬ У НАВАГРУДКУ

**Духоўныя практыкаванні адбудуцца з 24 па 30 чэрвеня ў доме сясцёр назарэтанак. Рэкалекцыі традыцыйна трываюць у цэлым маўчанні з магчымасцю штодзённай індывідуальнай размовы з духоўным кіраўніком. Іх правядзе а. Юзаф Аўгусцін SJ. Да ўдзелу запрашаюцца духоўныя і свецкія асобы.**

Запісацца на рэкалекцыі неабходна да 15 чэрвеня.

*Больш падрабязная інфармацыя і запіс па тэлефонах: (8 029) 637-55-14, (8 033) 687-29-02 або праз электронную пошту kstad@tut.by – кс. Тадэвуш Крыштопік.*

### РАДА ПА СПРАВАХ СЯМ'І ПРЫ ККББ ЗАПРАШАЕ НА КУРСЫ-РЭКАЛЕКЦЫІ

**Яны пройдуць 21–26 ліпеня ў Навагрудку (вул. 1 Мая, 26).**

На працягу гэтых дзён прапануецца цыкл сустрэч, падчас якіх удзельнікі маюць магчымасць паглыбіць свае веды ў пытаннях веры, сямейнага жыцця, будавання добрых стасункаў у сужэнстве. Кожны зможа задаць хвалюючыя пытанні падчас адмысловага пункту праграмы "100 пытанняў да…". Кульмінацыйным днём стане Эўхарыстыя.

Да ўдзелу ў курсах-рэкалекцыях запрашаюцца кансультанты сямейнага жыцця, тыя, хто рыхтуецца імі стаць, а таксама іншыя зацікаўленыя асобы.

*Запіс па тэлефоне: (8 029) 588-42-73, Ірына Мялешка.*

### ПАРАФІЯ Ў ВАЎКАВЫСКУ АРГАНІЗУЕ ПІЛІГРЫМКУ ПА СВЯТЫНЯХ ЕЎРОПЫ

**Парафія св. Станіслава Косткі ладзіць аўтобусную пілігрымку, якая ўключае наведванне шматлікіх святынь і еўрапейскіх гарадоў.**

**Святыні**
Сабор Парыжскай Маці Божай, лурдскі санктуарый, іспанскі санктуарый св. апостала Якуба, фацімскі санктуарый Маці Божай, Збавіцельны храм Святой Сям'і (Саграда-Фамілія), страсбургскі катэдральны сабор Найсвяцейшай Маці Божай

**Гарады Еўропы**
Парыж, Лурд, Страсбург (Францыя); Санцьяга-дэ-Кампастэла, Барселона (Іспанія); Фаціма, Лісабон (Партугалія)

**Час пілігрымкі**
17–29 жніўня

*Дадатковая інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 313-65-64, кс. Алег Дуль.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**26 мая 1951 г.** – кс. Ян Рудзінскі, *проб. Адэльск;*
**1 чэрвеня 1964 г.** – кс. Францішак Кафарскі, *проб. Іўе;*
**4 чэрвеня 1967 г.** – кс. Ян Вінажэндзіс, *проб. Нача.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by***



# Місія кожнага душпастыра – зразумець іншага чалавека

**Гродзенскі ардынарый Аляксандр Кашкевіч неаднаразова падкрэсліваў, што май з'яўляецца для яго асаблівым і любімым месяцам. Менавіта ў гэты час у 1976 годзе іерарх атрымаў святарскія пасвячэнні, а ў 1991 годзе – біскупскія. Напярэдадні важных гадавін успамінаем з ардынарыем пра бацькоў і першыя сакраманты, разважаем аб Божай міласэрнасці і духоўнай блізкасці са святымі.**

**Ваша Эксцэленцыя, раскажыце пра сям'ю, з якой паходзіце. Як выхоўвалі Вас бацькі?**

Я нарадзіўся ў в. Падгайдзе, што належыць да парафіі Эйшышкі на Віленшчыне, у шматдзетнай сям'і земляробаў. Мае бацькі, як і далейшыя сваякі, былі католікамі. Я рос у атмасферы, прасякнутай жывой верай, малітвай, замілаванасцю да рэлігійных традыцый, якія мы вельмі старанна і шчыра захоўвалі.

Колькі сябе памятаю, бацькі – а асаблівым чынам мама – вельмі клапаціліся аб маім рэлігійным выхаванні. У родным доме штодзённа разам адгаворвалі пацеры. Рабілі гэта па-асабліваму, паколькі пасля малітваў паўтаралі таксама 10 Божых запаведзяў, 5 касцёльных наказаў, 2 запаведзі любові і галоўныя праўды веры. Таму ўжо ў маленстве я не толькі навучыўся маліцца, але і пазнаёміўся з асноўным зместам Катэхізіса.

Памятаю таксама, што дома часта і з ахвотай спявалі. Кожны дзень пачынаўся прыгожай песняй "Kiedy ranne wstają zorze" ("Калі ранак наступае"). У нядзелю спявалі Гадзінкі. У маі па вечарах дома гучала Ларэтанская літанія. Безумоўна, мы хадзілі ў нядзелю ў касцёл, прымалі ўдзел у набажэнствах, адпустах, працэсіях. Я вельмі ўдзячны бацькам за тое, што яны змаглі стварыць дома такі просты, традыцыйны клімат народнай набожнасці.

Часта вяртаюся думкамі ў дзяцінства і дзякую Пану Богу, што даў мне вялікую ласку будавання свайго хрысціянскага і святарскага жыцця на моцным фундаменце веры і традыцыі, якія былі закладзены ў родным доме. Гэта сапраўдны скарб.

**Як рыхтаваліся да першых сакрамантаў?**

Да Першай св. Камуніі мяне рыхтавала адна вельмі набожная жанчына, верагодна тэрцыярка. Вучоба выглядала інакш, чым сёння. Не было сістэматычнай катэхезы, мы проста павінны былі вывучыць на памяць адказы на ўсе пытанні з кароткага Катэхізіса. Але я з прыемнасцю ўспамінаю тое вялікае замілаванне, з якім гэтая жанчына расказвала нам пра Бога, растлумачвала Катэхізіс, задавала пытанні. Яе дабрыня, любоў да выхаванцаў і цярплівасць назаўсёды застануцца ў маім сэрцы як адзін з найлепшых успамінаў з дзяцінства.

Да канфірмацыі я рыхтаваўся самастойна, а менавіта проста прыйшоў у касцёл і запісаўся. Калі быў у 9-ым класе, звярнуўся да пробашча роднай парафіі з просьбай аб удзяленні мне сакраманту хрысціянскай сталасці. Душпастыр запытаўся, ці ведаю Катэхізіс. Я адказаў станоўча. Жадаючы ўпэўніцца, ці сапраўды гэта так, пробашч задаў мне некалькі пытанняў. Я даў правільны адказ і быў дапушчаны да канфірмацыі.

**Калі пачулі заклік да службы Богу і людзям?**

Памятаю, як будучы яшчэ хлопцам – хоць і не быў міністрантам – захапляўся пробашчам, глядзеў, як ён адпраўляе св. Імшу, прамаўляе казанні, спавядае, выконвае іншыя святарскія паслугі. Паступова ўва мне нараджалася жаданне пайсці менавіта такой дарогай – дарогай святарства. Чарговым прыкладам быў клерык, які праходзіў душпастырскую практыку ў нашай парафіі. Сустрэча з ім яшчэ больш узмацніла маё жаданне быць ксяндзом. Я хадзіў тады ў 10-ты клас. Некалькі разоў быў на размове з пробашчам, якому прызнаўся, што хачу стаць святаром.

Насамрэч, вельмі трапна акрэсліў пакліканне як "дар і таямніцу" Святы Айцец Ян Павел II. Сапраўды, хіба што ніхто з нас да канца не ведае, чым з'яўляецца пакліканне, як яно нараджаецца, якім чынам прыходзіць голас Хрыста: "Ідзі за мной". Мы можам толькі здагадвацца аб гэтым.

**У чым бачыце сваю місію як душпастыра?**

На маю думку, найважнейшая місія кожнага душпастыра – зразумець іншага чалавека, выйсці яму насустрач, даць тое, чаго чакае. Святы Айцец Францішак нядаўна вельмі хораша сказаў, што святарства – гэта не кар'ера, а служба. Каб служыць людзям, трэба мець для іх шмат дабрыні, зычлівасці, цярплівасці, зразумення і спачування. Гэта нялёгка, але, на маю думку, гэта першае і асноўнае вымярэнне святарскай паслугі. Толькі потым ідзе навучанне, абвяшчэнне Божага слова, удзяленне сакрамантаў і г. д.

Каб такім чынам рэалізаваць святарства, трэба быць не толькі добра падрыхтаваным інтэлектуальна і навукова, але таксама мець глыбокую веру, добрае сэрца, багатае духоўнае жыццё, развіваць у сабе дух малітвы. Святарам вельмі ў гэтым дапамагаюць усе, хто ахінае духавенства сваёй малітвай. Мы ўсведамляем, што існуе мноства людзей, якія за нас моляцца, напрыклад, у ружанцовых колах, групах "Маргарытак", у іншых супольнасцях, а таксама прыватна, таемна. Ёсць і тыя, хто ахвяруе за святароў свае цярпенні. Гэта вельмі каштоўны духоўны тыл, які ўзмацняе, робіць паслугу яшчэ больш эфектыўнай, дапамагаючы нам рэалізоўвацца як святарам, нягледзячы на свае недахопы і недасканаласці, бо кожны з нас з'яўляецца толькі чалавекам. Я хацеў бы вельмі горача і сардэчна падзякаваць усім людзям, якія нас духоўна падтрымліваюць. Няхай добры Бог шчодра вас узнагародзіць.

**Калі маеце свабодную хвілінку, чаму прысвячаеце час?**

Прызнаюся, што ў мяне няшмат вольнага часу. Аднак пры магчымасці стараюся пачытаць штосьці карыснае на тэму духоўнасці, душпастырства, гісторыі. Стараюся сачыць за актуальным жыццём Паўсюднага Касцёла. Трэба прызнаць, што сёння лёгка атрымаць доступ да ўсякага роду інфармацыі. Выдаецца мноства сапраўды добрых, вартых рэчаў, вывучэнне якіх можа нас вельмі ўзбагаціць. Шкада толькі, што часта проста не хапае часу, кабісці ў нагу з усім гэтым.

**Які святы Вам блізкі і чаму?**

Мне вельмі блізкі і асабліва дарагі св. Антоній Падуанскі. У нашым парафіяльным касцёле ў Эйшышках ёсць цудоўная фігура, якая адлюстроўвае гэтага святога з Дзіцяткам Езус на плячы і з боханам хлеба ў руцэ. З маленства памятаю, што пасля св. Імшы мы з мамай спачатку падыходзілі да гэтай фігуры, каб укленчыць перад ёй і памаліцца аб заступніцтве св. Антонія, і толькі пасля выходзілі са святыні. Так рабілі і іншыя парафіяне. Культ святога там і надалей застаецца жывы, укаранёны ў мясцовай традыцыі, перадаваемы з пакалення ў пакаленне. Таму калі я прыступаў да сакраманту канфірмацыі, выбраў сабе імя Антоній. Будучы пробашчам парафіі Святога Духа ў Вільнюсе, вельмі цешыўся, што там таксама застаў добра развіты культ гэтага святога, звязаны з вядомым сваімі ласкамі абразом. У касцёле быў звычай спявання па-лацінску старажытнай песні "Se quaeris" ("Калі шукаеш цудаў Антонія"), адзначаліся аўторкі ў гонар святога. Парафіяне ахвотна маліліся, стоячы на каленях перад яго абразом.

Існуе шмат сведчанняў аб розных дарах і ласках, якія вернікі атрымлівалі праз заступніцтва св. Антонія, і нават цудах, што адбываліся ў мінулым.

Вельмі блізкія мне таксама св. Юзаф, св. Ян Марыя Віянэй, св. Тэрэза ад Дзіцятка Езус і, канешне, св. Ян Павел II. Паколькі духоўна і эмацыянальна я моцна звязаны з культам Божай міласэрнасці, не магу не назваць тых, каго Пан выкарыстаў, каб нагадаць свету праўду аб сваёй міласэрнасці. Гэта св. Фаўстына Кавальская і бл. Міхал Сапоцька.

Усіх святых яднае любоў да Бога, вернасць Яго волі, руплівасць і ахвярнасць у рэалізацыі свайго паклікання. Кожны з іх можа быць для нас прыкладам для пераймання.

**З якім дэвізам Вы як пастыр Касцёла крочыце па жыцці?**

Калі Святы Айцец Ян Павел II прызначыў мяне пастырам Гродзенскай дыяцэзіі, я змясціў на сваім біскупскім гербе дэвіз: "Jesu in Te confido" ("Езу, давяраю Табе"). Гэты выбар невыпадковы. Так склалася, што я меў сціплы ўдзел у справе пашырэння культу Божай міласэрнасці, калі як пробашч парафіі Святога Духа ў Вільнюсе прыняў арыгінальны абраз пэндзля Яўгена Казіміроўскага, які таемна быў прывезены з парафіі Новая Руда.

З часам я ўсё больш упэўніваюся, як моцна свету неабходна Божая міласэрнасць. Без яе – гэта значыць без звышнатуральнай падтрымкі ад Пана Бога, без Яго ласкі – ніхто ў жыцці не справіцца. А адчуваем мы гэтую Божую дапамогу тады, калі адкрываемся на яе, калі поўнасцю давяраемся Езусу і пачынаем больш разлічваць на Яго, чым на самiх сябе. Таму дэвіз "Езу, давяраю Табе" не толькі мне блізкі і эмацыянальна дарагі па прычынах, якія я ўзгадаў вышэй, але і з'яўляецца вельмі каштоўнай падказкай, звышнатуральнай "прапановай", якую стараюся рэалізаваць у сваім святарскім і біскупскім жыцці.

*Кс. Юрый Марціновіч*



*Падчас сёлетняй біскупскай візітацыі ў Рандзілаўшчыне*



*Разам з удзельнікамі Дыяцэзіяльных дзён моладзі 2017*



*Біскупскія пасвячэнні ў гродзенскай катэдры 26 гадоў таму*






*Кс. Віталій Дабраловіч*

***Чаму Бог прабачае грахі? Дзе мяжа Яго міласэрнасці?***

*Ужо ў Старым Запавеце можна заўважыць вялікую міласэрнасць Бога да свайго народа. Колькі разоў людзі адварочвалі свае галовы і сэрцы ад праўдзівай дарогі, падалі ў грахах, але Усемагутны кожны раз ім прабачаў і падымаў з балота правіннасцей. "А ў Пана Бога нашага міласэрнасць і прабачэнне, хоць мы бунтаваліся супраць Яго і не слухаліся голасу Пана Бога нашага..." (Дан 9, 9–10).*

*Мы назіраем вялікую любоў Стварыцеля да чалавека на працягу ўсёй гісторыі ізраільскага народа. Трэба адзначыць, што яна перапоўнена клопатам. "Не хацеў Бог караць нас потым, калі мы дасягнём канца грахоў. Ён ніколі не забірае ад нас сваёй міласэрнасці, хоць выхоўвае нас праз праследаванні, аднак не пакідае свой народ" (2 Мак 6, 15–16). Ужо тады Усемагутны нібы дае прыклад таго, што мы павінны рабіць у сваім жыцці. Здавалася б, чалавек мусіць гэта разумець і пераймаць словы Бога, але ён застаецца ўпартым.*

*Нябесны Айцец ідзе далей у міласэрнасці – пасылае чалавецтву свайго Сына. Езус, праходзячы па гарадах і вёсках, праз прыпавесці пра блуднага сына, згубленую авечку і страчаную драхму падкрэслівае вялікую міласэрнасць Бога да кожнага чалавека. Больш таго, Ён на сваім прыкладзе вучыць Апосталаў з адкрытым сэрцам выходзіць насустрач іншаму чалавеку. Найбольшую міласэрнасць у адносінах да чалавека Бог праяўляе ў смерці і ўваскрасенні Езуса Хрыста, сутнасць чаго нельга спасцігнуць адным толькі розумам.*

*На пытанне, дзе мяжа Божай міласэрнасці, трэба адказаць: чалавек не ў стане зразумець гэтай ісціны. Колькі разоў мы падаем у сваіх грахах! Колькі разоў адчуваем дрыжанне сэрца, калі ідзём да канфесіянала, каб прасіць у Айца прабачэння! І як жа моцна радуецца наша душа, калі чуем словы Хрыста: "Адпускаюцца табе грахі твае. [...] Вера твая ўратавала цябе" (параўн.: Лк 7, 48–50). У "Дзённіку" св. Фаўстыны Кавальскай чытаем заклік Хрыста: "Жадаю, каб святары абвяшчалі Маю вялікую міласэрнасць у адносінах да душ грэшных. Няхай грэшнікі не баяцца прыблізіцца да Мяне. Паліць Мяне полымя міласэрнасці, хачу яе выліць на людскія душы" (Дз, 50). Мы ж павінны толькі захацець і стаць пад кроплі гэтага дажджу.*

***Паводле grodnensis.by***

# ЧАМУЧКІ

Дзіцячая рубрыка

## Чаму ў маі молімся Ларэтанскай літаніяй?



**Заданне:**

малячыся разам з бацькамі Ларэтанскай літаніяй, паспрабуй ўкласці некалькі сваіх заклікаў да Марыі, якія падказвае сэрца.

Літанія – гэта збор малітоўных зваротаў, адрасаваных асобе, праз заступніцтва якой выпрошваем неабходныя ласкі. Заклікі ў выглядзе кароткіх формул называюць розныя характарыстыкі святога, здарэнні з яго жыцця. Яны з’яўляюцца нібы маленькімі каменьчыкамі вялікага мазаічнага пано.

Ларэтанская літанія атрымала сваю назву ад італьянскага горада Ларэта, дзе ў мясцовай базіліцы захоўваецца т. зв. святы дом, фрагменты жылля Багародзіцы. Менавіта тут Літанія Найсвяцейшай Панне Марыі была асабліва папулярнай. Аднак лічыцца, што з’явілася яна ў XII стагоддзі ў Францыі. Першапачатковая версія Літаніі не захавалася. Адзін з варыянтаў тэксту ў 1575 годзе кіраўнік хору ў Ларэта Кастанца Порта паклаў на музыку. Гэта і паспрыяла папулярызацыі менавіта такой версіі, якая стала вядомай ва ўсім свеце. У 1581 годзе папа Сікст V дараваў індульгенцыю (поўны адпуст караў за грахі) усім, хто чытае Ларэтанскую літанію.

Марыя працягвае сваю далонь і дапамагае кожнаму, нават самаму вялікаму грэшніку, які да Яе звяртаецца. Няхай пацвярджэннем гэтаму будзе апавяданне святара-салезіяніна Бруна Фэрэра “Святы Пётр і Марыя”.

**На працягу некалькіх дзён Пан не аглядаў усяго неба. Аднойчы раніцай, калі абудзіўся, вырашыў праверыць, ці ўсё ў парадку. Са здзіўленнем заўважыў сярод групы асоб таго, хто ў сваім жыцці не зрабіў нічога добрага, а быў вялікім злыднем і бязбожнікам.**

**– Што ўчыніў гэты чалавек, каб трапіць у неба? Святы Пётр павінен будзе адчытацца з гэтага, – сказаў пра сябе Пан.**

**Правяраючы далей, заўважыў сярод іншых благаслаўлёных нейкую жанчыну, якая ў сваім жыцці здзейсніла шмат дрэннага.**

**– І яна тут? – здзівіўся. – Хто правярае ўваход у шэраг благаслаўлёных? Святы Пётр павінен будзе растлумачыць гэта.**

**Абыходзячы неба, Пан наткнуўся таксама на іншых асоб, якіх не спадзяваўся ўбачыць у небе. Рашучым крокам накіраваўся да ўваходу. Ля варот з ключамі ў руцэ стаяў святы Пётр.**

**– Штосьці тут не так... – строга заўважыў Пан. – Я спаткаў тут, у небе, людзей, нявартых гэтага месца. Які з цябе ахоўнік? Ці не засынаеш ты часам падчас службы?**

**– О, не! Я не сплю, – адказаў пакрыўджаны Пётр. – Стаю ў варотах з шырока расплюшчанымі вачыма. Але нада мной ёсць маленькае акенца. Праз яго час ад часу Марыя апускае вяроўку і цягне тых, каму я забараняю ўвайсці. Таму, мабыць, не варта, каб я стаяў тут, у варотах. Іду ў адстаўку!**

**Твар Пана раз’ясніўся вялікай усмешкай.**

**– Ну добра ўжо, добра, – адказаў зычліва, абдымаючы святога Пятра, як калісьці на зямлі. – Тое, што робіць Панна Марыя, заўсёды добра зроблена. Ты і далей глядзі за варотамі і дазволь, каб аб акенцы думала Яна...**

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

**Чакаем Тваіх “чаму”, якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі.**
На пытанні заўсёды гатовыя адказаць салезіянкі са Смаргоні.

# Ад шчырага сэрца

**Глыбока паважанаму Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды 26-й гадавіны біскупскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог адорвае ласкай здароўя, Хрыстос заўсёды вядзе па сваіх сцежках, а Дух Святы ўдзяляе свае шчодрыя дары і кіруе Вамі як ахоўнікам праўды Касцёла. Няхай Добрая Навіна, якую абвяшчаеце, напаўняе людзей жывой верай, надзеяй і любоўю, накіроўваючы да вечнага шчасця. Дзякуем Вам за ўсе выразы пастырскага клопату аб даручаным людзе Божым. Да віншаванняў далучаем малітву, а Вашу паслугу даручаем у рукі Маці Божай Вастрабрамскай, заступніцы Дыяцэзіі.

*Апостальства “Маргарытка” Гродзенскай дыяцэзіі*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу**

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, поспехаў у паслузе на карысць Богу і людзям, аптымізму, радасці і шчасця на кожны дзень. Няхай Пан будзе шчодры на свае ласкі і благаслаўленне, Маці Божая нястомна апекуецца Вамі, а Дух Святы ўдзяляе свае дары.

*Рэдакцыя “Слова Жыцця”*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Роўбу**

з нагоды 40-годдзя дасылаем сардэчныя словы віншаванняў. Жадаем шчодрых дароў Святога Духа, сталай апекі Панны Марыі, добрага здароўя, душэўнага супакою на кожны дзень і добразычлівых людзей побач. Няхай з Божай дапамогай здзяйсняюцца ўсе Вашы намеры і планы. Шчыра дзякуем за мудрасць, веды і намаганні. Верым, што ўсе словы, скіраваныя да нас, шчырая супольная малітва падчас набажэнстваў, засеюць у душах зерне сапраўднай хрысціянскай дасканаласці, якое прарасце багатым плёнам у вечнасці.

*Марыя Кіжук і вернікі з в. Паперня*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шанчуку**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, радасці, мудрасці і цярплівасці. Няхай Найсвяцейшая Маці Божая заўсёды Вам дапамагае, а святы Заступнік апекуецца ў кожную хвіліну жыцця. Памятаем пра Вас у малітвах. Вельмі ўдзячныя за нялёгкую душпастырскую паслугу, дабрыню і зычлівасць, казанні, якія напаўняюць нашы душы Божым святлом і радасцю.

*Вернікі з парафіі МБ Шкаплернай, в. Прывалка*

**Паважаныя Айцы Пробашч Вітольд Пацельчыц, Віталій Слука, Віталій Сярко, Ян Асіповіч і ўсе Айцы, якія здзяйснялі душпастырскую паслугу і абвяшчалі Божае слова ў нашай святыні!**

З нагоды 100-годдзя аб’яўлення Маці Божай у Фаціме ад усяго сэрца жадаем Вам моцнага здароўя, Божых ласкаў і апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень жыцця. Дзякуем за працу ў нашай парафіі, духоўную апеку, клопат аб святыні, увагу да кожнага верніка, шчырую малітву, добрую ўсмешку і любячае сэрца.

*З удзячнасцю, Ружанцовае кола св. Максімільяна з парафіі св. Тэрэзы Авільскай, Шчучын*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яцэку Маркелю**

з нагоды 25-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Жадаем здароўя, стойкасці ў душпастырскай працы і шчодрага плёну на Божай ніве. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Заступнік вядуць Вас шчаслівым шляхам, а Святы Дух адорвае сваімі дарамі.

*Касцёльны камітэт, парафіяне, Ружы Жывога Ружанца, парафіяльны хор, літургічная служба алтара, дзеці і моладзь з касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Зэльве*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яцэку Маркелю**

з нагоды 25-годдзя святарскіх пасвячэнняў складаем сардэчныя пажаданні: Божага благаслаўлення на кожную хвіліну жыцця і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Бог ахінае Вас сваімі ласкамі, моцай і сілай, а таксама асвячае кожны год жыцця. Жадаем адчуваць толькі зычлівасць і любоў ад кожнага чалавека, якога сустрэнеце на сваім шляху.

*Сем’і Цярэшчанка і Плюшчэвіч*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Лісоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння і 18-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем усіх патрэбных ласкаў ад Усемагутнага, апекі Маці Божай, дароў Духа Святога, шмат радасных хвілін і натхнення. Няхай дарога, на якую Вас паклікаў Пан, будзе шчаслівай і благаслаўлёнай. Дзякуем за клопат аб святыні і парафіянах, адкрытасць і добрае пачуццё гумару.

*З павагай, вернікі з парафіі Вярэйкі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Этэлю**

з нагоды 10-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў ад усяго сэрца жадаем шмат Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, поспехаў у нялёгкай паслузе, нястомнасці ў абвяшчэнні Евангелля і міласэрнасці ад Усемагутнага. Няхай добры Бог нястомна Вас благаслаўляе, а Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае мацярынскім плашчом і дапамагае заўсёды годна выконваць Божую волю. Дзякуем за добрае сэрца, адкрытае на людскія патрэбы.

*З павагай, Легіён Марыі з група Добрага Пастыра з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Раманоўскаму**

з нагоды 5-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай: здароўя, душэўнага супакою, радасці ў сэрцы, Божага благаслаўлення, апекі Маці Божай і святога Заступніка. Няхай кожны пражыты дзень прыносіць сілу і радасць для выканання душпастырскай працы.

*Бацькі і сястра з сям’ёй*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Рэйшалю**

з нагоды 25-годдзя святарскіх пасвячэнняў і Дня нараджэння жадаем здароўя і апекі Маці Божай. Няхай добры Бог благаслаўляе Вас у складанай святарскай паслузе, а святы Заступнік дапамагае ў кожную хвіліну жыцця. Няхай побач будуць добразычлівыя людзі, а душпастырская праца прыносіць шчодры плён.

*Сем’і Бакун і Рэйшаль*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Рэйшалю**

з нагоды 25-годдзя святарскіх пасвячэнняў і Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў моцнага здароўя, поспехаў, добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху, шчодрых Божых ласкаў і сталай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены шчасцем і радасцю, на твары ззяе ўсмешка, а душу ахінае супакой.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Жалудка*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Рэйшалю**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства найлепшых пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, благаслаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае годна выконваць душпастырскую паслугу і нястомна адорвае сваімі дарамі. Няхай здароўе Вам спрыяе, радасць і надзея напаўняе сэрца, а з твару не знікае ўсмешка.

*Вернікі з в. Скярсі*

**Паважанаму Ксяндзу Ігару Анісімаву**

з нагоды 16-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем самыя сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, шчодрых дароў Святога Духа і Божых ласкаў, а таксама нястомнай апекі Найсвяцейшай Марыі Панны на кожны дзень. Няхай радасць, любоў, супакой і дабрыня заўсёды жывуць у Тваім сэрцы.

*Родныя*

**Паважанай Яніне Матысь**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні здароўя, шчасця, поспехаў ва ўсім, апекі Маці Божай і людской добразычлівасці. Няхай Ваша жыццё будзе шчаслівым і благаслаўлёным, а Бог няспынна адорвае Вас сваімі ласкамі.

*Францішканскі ордэн свецкіх, Колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Шаноўным Вікторыі, Дзмітрыю і Леаніду Ханьчыц**

з нагоды Дня нараджэння жадаем Божага благаслаўлення, апекі Маці Божай, дароў Святога Духа, здароўя, радасці, сардэчных і шчырых людзей побач. Шчасці Божа!

*Хросныя бацькі з в. Радзівілкі*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**

з нагоды 10-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем букет сардэчных пажаданняў радасці, моцнага здароўя, добразычлівасці ад людзей, нязгаснага запалу веры, сіл і нястомнасці ў душпастырскай паслузе. Няхай усе непрыемнасці, якія сустракаюцца на Тваім шляху, ніколі не знеахвочваюць, а толькі ўзмацняюць і вядуць да святасці. Няхай Маці Божая і святы Заступнік нястомна чуваюць над Табой і падтрымліваюць у нялёгкай душпастырскай працы.

*Мама і сёстры з сем’ямі*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету**

з нагоды 30-годдзя святарскіх пасвячэнняў перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай добры Бог адорвае Вас здароўем на доўгія гады, дадае сіл, каб далей ісці Яго дарогай. Няхай Хрыстос, якому Вы даверыліся, будзе побач, узмацняе і аберагае, а Маці Божая заўсёды мае ў сваёй апецы.

*Удзячныя парафіяне з касцёла Унебаўзяцця МБ у Адамавічах*

**Паважанаму Ксяндзу Зянону Рамейку**

з нагоды 25-й гадавіны святарства перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай зярняты, якія Вы засейваеце на даручанай Вам ніве, заўсёды прарастаюць і прыносяць шчодры плён. Жадаем моцнага здароўя, радасці, дароў Святога Духа. Няхай Добры Бог дапамагае ў спаўненні душпастырскай паслугі, а Найсвяцейшая Маці выпрошвае для Вас усе патрэбныя ласкі. Шчыра ўдзячныя за Ваша сэрца, поўнае дабрыні і любові, намаганыя далоні, абвяшчэнне Божага слова і клопат пра нас.

*Парафіяне з Астрыны*

**Шаноўнай Сястры Вераніцы Блізнюк**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем шмат сардэчных пажаданняў: здароўя, радасці, душэўнага супакою і добрых людзей побач. Няхай Пан Езус адорвае Вас благаслаўленнем і ўсімі патрэбнымі ласкамі, напаўняе святлом і сіламі. Шчыра дзякуем за адданую працу з нашым дзіцячым хорам. Жадаем апекі Маці Божай, а таксама шчодрых дароў Духа Святога.

*Моладзь, дзеці, закрыстыянін Здзіслаў, парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Смаргоні*

**Паважанаму Айцу Раману Цесляку**

з нагоды 30-годдзя святарскіх пасвячэнняў перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай Пан штодзённа адорвае Вас сваімі ласкамі: моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю. Няхай Анёл-ахоўнік чувае над Вамі, а Маці Божая ахінае любоўю і апекай. Шчыра дзякуем за паслугу на карысць Богу і людзям.

*З павагай, малітоўная група з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Каноніку Генрыху Яблоньскаму**

з нагоды 30-годдзя святарскіх пасвячэнняў складаем букет шчырых, сардэчных пажаданняў. Няхай міласэрны Бог адорыць Вас моцным здароўем, людской зычлівасцю. Жадаем усіх патрэбных ласкаў ад Усемагутнага на кожны дзень, апекі Маці Божай і святога Заступніка на святарскім шляху. Дзякуем за адкрытае сэрца, малітвы, адданую працу.

*З малітвай, удзячныя вернікі і апостальства “Маргарытка” з парафіі Найсвяцейшай Тройцы, Забалаць*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету**

з нагоды 30-годдзя святарскіх пасвячэнняў жадаем моцнага здароўя, сіл, дабрабыту, шчасця, святла Духа Святога, рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, а таксама добразычлівых людзей побач. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божай любоўю, душпастырская служба прыносіць благаслаўлёны плён, а Панна Марыя ўкрывае сваім мацярынскім плашчом і абараняе ад усякага зла.

*З павагай, малітоўная група з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**

з нагоды 11-годдзя святарскіх пасвячэнняў перасылаем самыя найлепшыя пажаданні: Божага благаслаўлення, здароўя, душэўнага супакою, моцнай веры, поспехаў у душпастырскай працы і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Езус Хрыстус заўсёды дапамагае, а Маці Божая нястомна чувае над Вамі. Шчыра дзякуем за дабрыню, адкрытае сэрца і ахвярную працу на карысць Богу і людзям.

*З павагай, малітоўная група з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважаны Ксёндз Андрэй Зайко!**

Сардэчна віншуем Вас з нагоды 16-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў. Жадаем, каб промень Божай ласкі ззяў над Вашай галавой, каб жыццё было напоўнена малітвай і дабрынёй. Няхай вера ўзрастае кожны дзень, надзея ніколі не пакідае сэрца, а любоў цвіце ў душы цудоўнай кветкай, адорваючы ўсіх цеплынёй.

*Парафіяльная рада і вернікі з касцёла Гродна-Паўднёвы*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2401; тыраж 4970; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная